www.nv-online.info

№ 33 (3978)

28 красавіка 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ВЫБАРЫ-2015

## Кандыдат нумар шэсць

У нядзелю 26 красавіка пленум ЦК партыі левых “Справядлівы свет” ухваліў удзел свайго кіраўніка Сяргея Калякіна ў прэзідэнцкіх выбарах. Праўда, гэта рашэнне яшчэ павінен зацвердзіць з’езд партыі, які пройдзе ў канцы мая.

Цікава, што старажыл беларускай апазіцыі камуніст Сяргей Калякін двойчы спрабаваў стаць кандыдатам у прэзідэнты. Але ў 2001 годзе не сабраў дастатковай колькасці подпісаў за сваё вылучэнне, а ў 2006-м прайграў барацьбу за права стаць адзіным кандыдатам ад апазіцыі Аляксандру Мілінкевічу. І вось зараз, размяняўшы сёмы дзясятак, Калякін зноў адчуў патрэбу паўдзельнічаць у выбарах. Дарэчы, да нядаўняга часу лічылася, што ён і яго партыя ўключацца ў кампанію разам з Аб’яднанай грамадзянскай партыяй і яе кандыдатам Анатолем Лябедзькам. І што адбылося зараз – раскол паміж саюзнікамі ці гульня, – пакажа бліжэйшы час.

### Да ведама

Пра свае прэзідэнцкія амбіцыі ўжо заявілі кіраўнікі Ліберальна-дэмакратычнай партыі Сяргей Гайдукевіч і Аб’яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька. Таксама кандыдатамі ў прэзідэнты хочуць вылучацца першая намесніца старшыні ГА “Таварыства беларускай мовы” Алена Анісім і актывістка кампаніі «Гавары праўду!» Таццяна Караткевіч. Такім чынам, разам з Аляксандрам Лукашэнкам і Сяргеем Калякіным мы ўжо маем мінімум шэсць прэтэндэнтаў на прэзідэнцкую пасаду.

**Алег СНОЎ.**

SOS!

### *С начала года Беларусь потеряла почти четверть экспорта*

Основные потери связаны со свертыванием российского рынка. В этой связи премьер-министр Андрей Кобяков призывает активно переводить белорусский экспорт на другие направления.

Интересно, что ни по одной отрасли правительство не выполняет показатели по диверсификации экспорта, которые само же до себя «довело».

Премьер признал, что в I квартале Беларусь теряла внешние рынки. Даже по сравнению с далеко не лучшим прошлым годом в январе-феврале экспорт товаров и услуг сократился на 22,7%. *«Из-за высокой концентрации экспорта как по товарам, так и по рынкам возрастают внешние риски для стабильного развития национальной экономики»,* – признал Андрей Кобяков.

ПАЛІТКУХНЯ

## Даводзяць сітуацыю да абсурду!

Беларуская партыя “Зялёныя” падтрымае на выбарах кандыдата-дармаеда. Навіна пра гэта ўжо размешчана на сайце партыі, а на бліжэйшы час запланавана прэс-канферэнцыя, на якой прэтэндэнт адкажа на пытанні прэсы.

Цэнтральны савет адзінай экалагічнай партыі, якая зарэгістравана ў нашай краіне, прыняў рашэнне падтрымаць на прэзідэнцкіх выбарах-2015 незалежнага кандыдата-самавылучэнца Юрыя Шульгана.

“Юрый Віктаравіч Шульган – “дармаед у дэкрэце”, як ён сябе называе, – вось ужо 15 гадоў як афіцыйна нідзе не працуе. Прыняты нядаўна Дэкрэт аб дармаедах стымуляваў яго як свядомага грамадзяніна да актыўных пошукаў вобласці працоўнай дзейнасці, таму на выбары ён ідзе з адзінай мэтай – працаўладкавацца на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь”, – гаворыцца ў паведамленні партыі.

Зразумела, што ў беларускіх умовах немагчыма сур’ёзна гаварыць пра тое, што выбары з’яўляюцца паказчыкам сапраўднага волевыяўлення народа. Але ці трэба апазіцыйнай партыі ператвараць іх у сапраўдны фарс, даводзіць сітуацыю да абсурду?..

ДЫПКУР’ЕР

## Пётр Парашэнка адклікае з Мінска пасла Украіны

Пасол Украіны ў Рэспубліцы Беларусь Міхаіл Ежэль будзе адкліканы. Пра гэта, каментуючы пытанне журналістаў, заявіў у ходзе брыфінгу на Нікалаеўшчыне прэзідэнт Пётр Парашэнка.

*«Мною прынята рашэнне аб яго адкліканні. Зараз рыхтуюцца адпаведныя дакументы і прадстаўленні»,* – заявіў Парашэнка.

Што ж здарылася?

Міхаіл Ежэль – адзін з былых украінскіх міністраў абароны часоў Януковіча (з сакавіка 2010-га па люты 2012 года). Генеральная пракуратура Украіны, якая займаецца расследаваннем крымінальных спраў, што тычацца знішчэння тылавога забеспячэння ўкраінскай арміі, мае да яго прэтэнзіі. Але гэтую навіну генпракурор Украіны Віталь Ярэма паведаміў яшчэ ў жніўні 2014 года. Былі нават паведамленні, што Генпракуратура Украіны выклікала Міхаіла Ежэля на допыт, але ён, нічога не каментуючы, заставаўся ў Мінску.

У канцы красавіка гэтага года МЗС Украіны выступіла з прапановай адклікаць амбасадара Украіны ў Беларусі і вызваліць яго ад пасады пасла. Больш за тое, у Генпракуратуры паведамілі, што шукаюць Ежэля як падазронага па справе аб растраце дзяржаўных грошай, але ён “збег у Беларусь”. Дзіўна, што “збег ён” у пасольскую рэзідэнцыю сваёй краіны і як пасол Украіны ўдзельнічаў у Беларусі ў шматлікіх мерапрыемствах, у тым ліку ў перамовах па ўрэгуляванні сітуацыі на Данбасе. Былі чуткі, што ад’езд пасла Ежэля ў Кіеў адкладзены ў сувязі з хваробай. Праўда, як паведамляюць украінскія СМІ, у красавіку гэтага года беларуская пракуратура адмовілася адказваць на запыт ГПУ аб тым, ці сапраўды экс-міністр абароны часоў Януковіча лечыцца ў Мінску.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

РЭЙТЫНГ

### *Гарачы з’езд*

На справаздачна-выбарным з’ездзе Беларускага незалежнага прафсаюза да апошняга не было вядома, хто ж узначаліць арганізацыю.

65 дэлегатаў з пяці рэгіёнаў Беларусі заслухалі даклады прадстаўнікоў Выканаўчага бюро, прызналі яго працу здавальняючай, але потым пачаліся выбары. У выбарах на пасаду старшыні БНП бралі ўдзел Мікалай Зімін (дзеючы старшыня) і Юрый Швец (дзеючы віцэ-старшыня).

Усяго два галасы дазволілі Мікалаю Зіміну захаваць сваю пасаду. І гэта значыць, што арганізацыя, па сутнасці, аказалася на мяжы расколу.

ЧУЛІ?

## Хочаш “шэнген”? Здай адбіткі пальцаў

*З 23 чэрвеня 2015 года грамадзяне Беларусі пры падачы заяў на атрыманне шэнгенскай візы павінны будуць здаваць адбіткі пальцаў.*

*“Пачынаючы з 23 чэрвеня пры падачы хадайніцтва аб выдачы візы неабходна асабістая прысутнасць усіх заяўнікаў, якія дасягнулі 12-гадовага ўзросту*, – распавёў учора прадстаўнікам СМІ кіраўнік аддзела палітыкі і прэсы Прадстаўніцтва Еўрасаюза ў Беларусі **Рудольф РЫШАР**. – *Супрацоўнікі консульскіх устаноў будуць уносіць біяметрычныя звесткі (адбіткі пальцаў і лічбавае фота) ў базу Візавай інфармацыйнай сістэмы (ВІС), дзе яны будуць захоўвацца на працягу 59 месяцаў і выкарыстоўвацца пры апрацоўцы ўсіх наступных хадайніцтваў гэтага заяўніка на выдачу візы ў любым пасольстве ці консульстве любой краіны Шэнгенскага пагаднення. Праз 59 месяцаў супрацоўнікі консульскай службы павінны будуць ізноў уносіць біяметрычныя звесткі заяўніка ў базу ВІС. Ад абавязкаў здаваць адбіткі пальцаў вызваляюцца дзеці да 12 гадоў, асобы, якія фізічна не ў стане гэта зрабіць (пры адсутнасці пальцаў), кіраўнікі дзяржаў і члены ўрада, члены афіцыйных дэлегацый і іх сужэнцы, якія здзяйсняюць службовыя паездкі. А вось уладальнікі дыпламатычных пашпартоў не вызваляюцца ад здачы адбіткаў. Праўда, яны могуць быць вызвалены ад працэдуры атрымання візы – такое права ім даюць асобныя краіны Еўрасаюза”.*

**– Ці не з’явяцца пасля гэтага новаўвядзення чэргі ў пасольствах і консульскіх аддзелах?** – пацікавіліся ў спадара Рышара журналісты.

– Вопыт работы ў іншых краінах паказвае, што ніякіх дадатковых чэргаў стварацца не будзе. Дый у Пасольстве Францыі ў Беларусі такая сістэма працуе аж з 2005 года, там ніякіх праблем не назіралася. Пры падачы заявы на візу на тое, каб зняць адбіткі пальцаў і адсканаваць фотаздымак, неабходна ўсяго адна хвіліна.

**– Ці будзе Інтэрпол мець доступ да адбіткаў пальцаў, якія здадуць беларусы?**

– Не, але з 10 верасня 2010 года нацыянальныя праваахоўныя органы могуць запрошваць доступ да гэтай базы дадзеных. У будучым і Еўрапол будзе мець доступ да базы для прадухілення, выяўлення і расследавання тэрарыстычных актаў і іншых цяжкіх крымінальных злачынстваў. Але гэта не будзе рабіцца для таго, каб вывучыць крымінальнае мінулае заяўніка і на гэтай падставе, напрыклад, адмовіць яму ў выдачы візы.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ПАМЯЦЬ

### *Імша па Аляксандру Надсану*

У сераду ў 17 гадзіне ў мінскім Чырвоным касцёле будуць маліцца за айца Аляксандра Надсана.

У гэты дзень у Лондане адбудзецца пахаванне святара. Ён быў постальскім візітатарам для беларусаў-каталікоў у замежжы. Святар памёр 15 красавіка пасля хваробы. Яму было 88 гадоў.

ШЧЫРАЯ РАЗМОВА



## Павел СЕВЯРЫНЕЦ: «Пачынай з сябе...»

Павел Севярынец займае асобнае месца ў шэрагу вядомых дзеячаў беларускага дэмакратычнага руху. Прычым заявіў ён пра сябе яшчэ ў студэнцкія гады. Павел быў, бадай, ледзь не самым актыўным удзельнікам вулічных акцый і аўтарытэтным лідарам моладзі. Менавіта ён з’яўляўся ініцыятарам заснавання “Маладога фронту”, які стаў візітнай карткай кожнай вулічнай акцыі. За гэта спазнаў усю “любату” пераследу – арышты, штрафы, дзве “хіміі”... А зараз нібыта сышоў у цень: не балатуецца, не вылучаецца, не піярыцца... Многія не разумеюць такіх паводзін маладога палітыка, які лічыўся адным з самых перспектыўных. Што здарылася? Чым займаецца Севярынец?

**– Павел, пачнём з галоўнага. Ведаю многіх людзей, якія кажуць: вось, быў Севярынец у “Маладым фронце” – быў нармалёвы хлопец. Але потым кінуўся ў рэлігію, і цяпер замест палітычных прамоў – ледзь не казані. Што адбылося тады, напрыканцы 1990-х, калі ты прыйшоў да Бога? Што для цябе змянілася?**

– Сапраўды, галоўная падзея ў маім жыцці адбылася 17 гадоў таму, у турме на Валадарцы. 2 красавіка 1998 года мяне затрымалі ў Мінску на мітынгу супраць інтэграцыі з Расіяй, змясцілі ў ізалятар і распачалі крымінальную справу за «хуліганства». Але паколькі справа была наскрозь сфабрыкаваная, відаць, вырашылі проста выціснуць з краіны. 18 красавіка мяне раптам адпусцілі на трое сутак у Віцебск на пахаванне гадавалага пляменніка Янкі – з разлікам, што я ўцяку за мяжу. Але наш маладафронтаўскі план быў іншы: легчы ў шпіталь, каб і застацца ў Беларусі, і не вяртацца ў турму. І вось за тры гадзіны да часу вяртання мы едзем у 33-ю студэнцкую паліклініку, каб забраць маю медыцынскую картку для накіравання ў бальніцу, – і раптам, калі машына спынілася на святлафоры, на мяне сыходзіць нейкая звышнатуральная хваля. Я адчуў яе проста фізічна і ясна зразумеў дзве ісціны: Бог ёсць, і мне трэба... вярнуцца ў турму. Сябры былі ў шоку. На Валадарцы таксама былі агаломшаны маім дабраахвотным вяртаннем.

Ужо на ганку турмы музыка Аляксей Фралоў даў мне Новы Запавет і Псалмы па-беларуску. Падчас «шмону» (агляду рэчаў) Святое Пісанне паклалі на дно сумкі.

І вось я трапляю ў «адстойнік», і мяне ахоплівае паніка: што ж ты нарабіў, дурань?! Лезу ў сумку, каб хаця б перакусіць і заглушыць роспач, – і раптам намацваю наверсе Запавет. Нішто сабе фокус, думаю, ён жа на дне ляжаў, завалены іншымі рэчамі. Тады я сам сабе сказаў: мо гэта нейкі знак, дай разгарну кнігу, і, калі Бог ёсць, Ён мне адкажа. Разгарнуў на Евангеллі паводле Яна, 14-ы раздзел, 1-ы верш. Чытаю: “Няхай не сумняваецца сэрца вашае, веруйце ў Бога і ў Мяне веруйце” кажа Ісус”.

У мяне захоплівае дух. Уся натура пратэстуе: як гэта так? Усё жыццё не верыў, а тут... Думаю: адкрыю яшчэ раз, што цяпер трапіцца? Разгортваю – і зноў на тым жа месцы! Пасля гэтага я пачынаю чытаць Біблію і разумею, што ўсё вельмі сур’ёзна, трэба мяняць усё сваё жыццё.

Адначасова адбываліся даволі жорсткія рэчы. Паколькі я вярнуўся ў турму, то са мной трэба было нешта рабіць. “Захацеў быць героем? Паспрабуй!” Пачынаюць “ламаць”. Следства бярэцца даказаць, што я распальваў міжнацыянальную варожасць. Да 10 гадоў свеціць (тут ужо не “хуліганка” – да трох гадоў). Мяне просяць прызнаць то адзін артыкул, то другі, гандлююцца, прапануюць адзін зняць, дадаць іншы... У маі пачалі пагражаць новым абвінавачаннем – згвалтаванне непаўнагадовай. Кажуць, што ёсць і сведкі, і заява бацькоў. Пачалі запалохваць, што дадуць 15 гадоў, а на “зоне” сам ведаеш, што з такімі робяць...

Вядома, ўсё гэта было хлуснёй, але я зразумеў: яны могуць зрабіць што заўгодна. І вось 31 мая 1998 года я прымаю рашэнне – галадаць або да волі, або да смерці. І нечакана прыгадваю такую рэч: за два гады да гэтага я пачаў пісаць мастацкую кнігу, дзе героем быў 21-гадовы малады чалавек, які гіне ў апошні дзень вясны. Як так сталася, што цяпер, у рэальным жыцці, менавіта ў апошні дзень вясны я, 21-гадовы, павінен памерці для сябе ранейшага і ажыць – для Хрыста?.. Я каюся перад Богам. Тры дні праходзяць у нейкай эйфарыі, мне ўжо нічога не страшна. А 3 чэрвеня зранку мяне вывозяць у пракуратуру і там паведамляюць, што я вызвалены “ў сувязі з абставінамі, якія змяніліся”.

Гэта быў Божы цуд. Пасля гэтага я пачаў шукаць Бога ў царкве, сярод сяброў, а таксама і ў палітычнай дзейнасці. Так, цяпер хрысціянскія каштоўнасці ў палітыцы ўспрымаюцца нармальна, а тады казалі: “Ну ўсё! Дах паехаў – ударыўся ў Бога”. Пасля больш як паўтара года давялося перажываць моцнае ўнутранае змаганне, ачышчэнне. Гэта было і пакутліва, і цудоўна. Вера – гэта не толькі дар, але і крыж. Але я ясна зразумеў: хочаш змяніць Беларусь – пачынай з сябе.

**– Добра. Быў атэістам, стаў вернікам. Ведаю, што ходзіш у праваслаўную царкву. Але РПЦ сёння мае не лепшую рэпутацыю ў Беларусі... Падтрымка імперскай палітыкі, скандалы, “рускі свет”. Як ты, свядомы беларус, адчуваеш сябе ў гэтай царкве?**

– Ведаеце, часам даводзіцца адчуваць і сорам, і прыкрасць. Але, па-першае, асобныя іерархі ці бацюшкі – гэта далёка не ўся царква. У БПЦ агромністая колькасць і шчырых вернікаў, і светлых святароў. Па-другое, а што рабіць – сыходзіць і аддаваць спрадвечнае беларускае праваслаўе цемрашальству і шавінізму? Гэта было б адступленнем.

А па-трэцяе, сапраўдная царква – гэта найперш не інстытут і не храм. Гэта супольнасць вернікаў, прычым розных канфесій. Мая жонка Волечка – каталічка, у мяне мноства сяброў-пратэстантаў, і мы, розныя, у беларускім трыадзінстве канфесій узаемна дапаўняем адзін аднаго. Верым у адзінага Хрыста, які нас збавіў, – і разам працуем дзеля Беларусі.

**– Павел, вось вы ствараеце партыю «Беларуская хрысціянская дэмакратыя». Як такое спалучэнне – хрысціянства і дэмакратыя – можа працаваць у Беларусі, дзе веру ў Бога семдзесят гадоў выкаранялі?**

– Хрысціянская дэмакратыя – адна з самых моцных і паспяховых палітычных ідэалогій апошняга стагоддзя. Пасля дзвюх знішчальных сусветных войнаў людзі зразумелі: хопіць камунізмаў і фашызмаў, трэба вяртацца да тых каштоўнасцяў, якія абараняюць жыццё, якія надаюць яму сэнс – да веры, любові, адказнасці, сям’і. Сацыяльная рынкавая эканоміка, моцнае мясцовае самакіраванне, вяршэнства закона ў многіх развітых краінах – гэта вынік стагоддзяў веры і таксама працы хрысціянскіх дэмакратаў. Наймацнейшай краінай ЕС кіруюць хрысціянскія дэмакраты на чале з Ангелай Меркель. Дарэчы, Беларусь – адзіная краіна ў Еўропе, дзе не зарэгістраваны хрысціянскія дэмакраты. Вось вам і пытанне: чаму рэжым баіцца партыі, заснаванай на маральных прынцыпах?

Напаўразбуранай, раскрадзенай Беларусі, якая паціху співаецца і робіць дзясяткі тысяч абортаў штогод, якая выракаецца сваёй мовы і пакутуе ад страху, патрэбна менавіта хрысціянская дэмакратыя. Такая сіла, якая арганізоўвае палітыку, эканоміку, сацыяльную сферу ў адпаведнасці з біблейскімі прынцыпамі. Згадайце пасляваенныя Германію і Італію: іх аднавілі хрысціянскія дэмакраты. А ў нас Беларусь пасля 70 гадоў камунізму і 20 гадоў праўлення Лукашэнкі выглядае як пасля вайны. Беларусі патрэбна маральная рэвалюцыя – каб перастала быць нормай красці, хлусіць, баяцца. Галоўны масавы патэнцыял для перамен – гэта веруючыя прафесіяналы, здольныя замяніць старыя савецкія кадры або сённяшнія цынічныя слаі чынавенства. Сумленнасць – вось галоўны дэфіцыт у эпоху перамен.

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

ДАСЬЕ “НАРОДНАЙ ВОЛІ”

***Павел Севярынец** нарадзіўся 30 снежня 1976 года. У 1994 г. скончыў з залатым медалём СШ №25 Віцебска, у 2000 годзе – геаграфічны факультэт БДУ.*

*У 1995 г. уступіў у БНФ «Адраджэнне». З 1997 г. – лідар “Маладога фронту”.*

*2 красавіка 1998 г. арыштаваны падчас апазіцыйнай маніфестацыі за «зрыў канцэрта, прысвечанага аб’яднанню Расіі і Беларусі». Праз 2 месяцы пад ціскам беларускай і міжнароднай грамадскасці вызвалены і адпраўлены пад падпіску аб нявыездзе ў Віцебск. Крымінальная справа спынена ў лістападзе 1998 г. без тлумачэнняў і прабачэнняў.*

*У 1997–2004 гг., больш за 40 разоў затрымліваўся міліцыяй і КДБ; агулам правёў пад арыштам больш за 7 месяцаў і атрымаў 3,5 тысячы долараў штрафаў.*

*У 2005 годзе абвінавачаны ў арганізацыі акцый пратэсту супраць «трэцяга тэрміну Лукашэнкі» пасля рэферэндуму-2004. Асуджаны да трох гадоў абмежавання волі. Чарговую “хімію” атрымаў за апошнюю прэзідэнцкую кампанію 2010 года.*

ВІНШУЕМ!

## Мастак і Горад: дыханне часу



Фота Яўгена Колчава.

***Маю Вольфавічу Данцыгу, выдатнаму беларускаму жывапісцу, прафесару, споўнілася 85 гадоў. Яго творчасць прызнана калегамі на радзіме і за мяжой. Напэўна, не набярэцца і дзесяці мастакоў Беларусі, чые карціны купіла ў сваю калекцыю сусветна вядомая Траццякоўская галерэя. Адзін з тых, хто меў такі гонар, – народны мастак Май Данцыг.***

Але большасць з нас знаёмы з творчасцю мастака па карціне «Мой горад старажытны, малады», якая выстаўлена ў нашым Нацыянальным мастацкім музеі. Гэта магутнае палатно, на якім намаляваны цэнтр горада – Няміга. Прычым намаляваны з вышыні птушынага палёту, і гэты «высокі» погляд дае гледачу велізарную панараму сталіцы і напружанае пачуццё часу. Цікава ўбачыць сёння, якім гэта знакамітае месца, старажытны дзяцінец Мінска, быў 45 гадоў таму – карціна пісалася на пачатку 1970-х гадоў. Тады на Нямізе пачыналася вялікая будоўля, яшчэ толькі пракладвалі праспект Пераможцаў, які спачатку называўся Паркавай магістраллю. А даволі вузкая, нязручная вуліца Няміга нават у марах не ўяўлялася аўтару такой прыбранай, з заяўкай на еўрапейскую фешэнебельнасць, якой яна стала цяпер. Погляд мастака захапіў шмат архітэктурных помнікаў, у тым ліку і гатычную Халодную сінагогу XVI стагоддзя. Яе, на жаль, прыкладна ў той час і зруйнавалі... Дарэчы, Май Вольфавіч неаднаразова вяртаўся да загінуўшай Нямігі ў сваёй творчасці – пісаў ужо па памяці тое, што было знесена.

Май Данцыг увайшоў у беларускую гісторыю мастацтва як урбаніст. Але майстар шмат пісаў і на ваенную тэматыку. Таксама маштабна, экспрэсіўна, псіхалагічна дакладна. Адна з самых вядомых яго карцін – «Партызанская балада». Крытыка па-рознаму адгукнулася на правакацыйны сюжэт палатна: жанчына з вінтоўкай корміць грудзьмі знясіленага партызана на выпаленым полі бою. Але зусім не заўважыць выразную працу – своеасаблівую алегорыю Беларусі як маці-партызанкі – было немагчыма. Аб гэтым творы спрачаюцца і сёння. Зараз ён знаходзіцца ў прыватным арт-фондзе сям’і Філатава.

За значны асабісты ўклад у развіццё выяўленчага мастацтва Май Вольфавіч Данцыг узнагароджаны ордэнам Францыска Скарыны і ордэнам Пашаны. Ён таксама лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі. Яго карціны захоўваюцца ў музеях, галерэях і прыватных калекцыях. Ён па-ранейшаму застаецца адным з вядучых мастакоў краіны.

**Кірыл БУБНОЎ.**

ТРАГЕДЫЯ

## У яго засталіся жонка і дзіця...

*На мінулых выхадных у Салігорску адбылася жудасная трагедыя – пры выкананні рамонтных работ на “Беларуськалії” загінуў 37-гадовы праходчык Аляксей Антановіч. Ягоны напарнік – 45-гадовы Сяргей Новік – атрымаў цяжкія траўмы і быў дастаўлены ў рэанімацыю салігорскай бальніцы.*

Паведамленне аб здарэнні паступіла на пульт службы Міністэрства па надзвычайных сітуацыях 25 красавіка ў 15.38. Трагедыя адбылася на глыбіні 264 метры ў шахце прамысловай пляцоўкі 1-га рудаўпраўлення “Беларуськалія”. Там вяліся рамонтныя работы па замене арак, адбыўся абвал пароды. Кажуць, што на рабочых, якія выконвалі рамонтныя работы, абрынулася лавіна вагой у некалькі тон.

Медыкі ”хуткай”, якія прыбылі на месца здарэння, спрабавалі выратаваць Аляксея Антановіча, але іх намаганні аказаліся марнымі. Мужчына памёр. Напарнік Аляксея Сяргей Новік быў дастаўлены ў Салігорскую бальніцу са шматлікімі траўмамі. Медыкі дыягнаставалі ў яго адкрыты пералом костак левай галёнкі, пералом левай ключыцы, закрытую траўму костак таза, траўматычны шок... Стан Сяргея характарызуецца як цяжкі. Учора медыкі адмаўляліся даваць якія-небудзь прагнозы наконт ягонага стану...

Абодва пацярпелыя працавалі на пасадах праходчыкаў ААТ “Шахтаспецбуд” – арганізацыі, якая спецыялізуецца ў тым ліку і на работах на падземных аб’ектах.

На прадпрыемстве пра Аляксея Антановіча адгукаюцца як пра высакакласнага спецыяліста. Былыя калегі дагэтуль не могуць паверыць, што здарылася самае страшнае, што Аляксея больш няма. *“Нам нават цяжка нешта гаварыць*, – уздыхаюць рабочыя. – *Ён даволі даўно ў нас працаваў, апошнія пяць гадоў – праходчыкам. Быў на добрым рахунку. Вопытны, адказны... І вось зараз такая трагедыя!.. У яго засталася сям’я – жонка і дзіця. Мы спачуваем родным Аляксея...”*

Расследаваннем падземнай трагедыі займаецца Следчы камітэт Беларусі.

Афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта **Аляксей Клімовіч** адзначыў, што адной з асноўных версій здарэння, якая разглядаецца следчымі, з’яўляецца так званы “чалавечы фактар”, а менавіта парушэнне правілаў бяспекі пры правядзенні горных работ, якое пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека.

“Па факце здарэння Следчым камітэтам узбуджана крымінальная справа па частцы 2 артыкула 203 Крымінальнага кодекса Рэспублікі Беларусь. Канфіскавана тэхнічная дакументацыя, прызначаны шэраг экспертных даследаванняў, у тым ліку судова-медыцынская экспертыза, якая дазволіць устанавіць дакладную прычыну смерці рабочага, а таксама прычыну атрымання другім рабочым цяжкіх цялесных пашкоджанняў”, – адзначыў ён.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

## 100 працэнтаў акцый ААТ “БМЗ – кіруючая кампанія холдынга “БМК” належаць дзяржаве

23 снежня 2014 года на першай старонцы “Народнай Волі” быў надрукаваны матэрыял “Прымусовы адпачынак” пра сітуацыю на Беларускім металургічным заводзе. У красавіку б.г. рэдакцыя атрымала ліст за подпісам генеральнага дырэктара ААТ “Беларускі металургічны завод – кіруючая кампанія холдынга “БМК” А.Савянка. Ён даводзіць да ведама газеты, яе чытачоў, што ў публікацыі дапушчана недакладнасць. На самай справе ўсе 100 працэнтаў акцый ААТ “БМЗ – кіруючая кампанія холдынга “БМК” **належаць дзяржаве.**

Прыносім прабачэнне калектыву металургаў і чытачам.

**Рэдакцыя газеты “Народная Воля”.**

НА ЗАМЕТКУ



# Май, труд, дача...

Май идет – работ невпроворот! Это самый напряженный месяц у садоводов. Участок надо подготовить к высадке семян и рассады. Что важно помнить: в мае возможны заморозки, которые сменяют теплые, а порой и жаркие дни. Поэтому не стоит спешить с высадкой теплолюбивых культур в открытый грунт.

Лунный посевной календарь садовода и огородника с рекомендациями на 1–18 мая 2015 года с указанием положений Луны в знаках зодиака, фаз Луны.

| Дата | Луна в знаке зодиака | Фаза Луны | Рекомендуемые работы в саду и огороде |
|---|---|---|---|
| 1 мая 2015 года | Луна в Весах | Растущая Луна | Рекомендуется посадка косточковых фруктовых деревьев, стручковых культур (гороха, фасоли, спаржи, чечевицы), а также всех цветов |
| 2 мая 2015 года | Луна в Весах | Растущая Луна | Рекомендуется посадка косточковых фруктовых деревьев, стручковых культур (гороха, фасоли, спаржи, чечевицы), а также всех цветов |
| 3 мая 2015 года | Луна в Скорпионе 04.47 | Растущая Луна | Рекомендуется посадка большинства культур: капусты, помидоров, огурцов, перца, тыквы. Эффективны подрезка деревьев и ягодных кустов, внесение удобрений, полив, уничтожение вредителей, вспашка и рыхление почвы |
| 4 мая 2015 года | Луна в Скорпионе | Полнолуние 06.42 | Не рекомендуются посевы и посадки. Эффективны прививка, внесение удобрений, полив, уничтожение вредителей, вспашка и рыхление почвы |
| 5 мая 2015 года | Луна в Стрельце 14.12 | Убывающая Луна | Рекомендуется быть осторожнее при любых садово-огородных работах. Культивация, прополка, уничтожение вредителей |
| 6 мая 2015 года | Луна в Стрельце | Убывающая Луна | Рекомендуется быть осторожнее при любых садово-огородных работах. Культивация, прополка, уничтожение вредителей |
| 7 мая 2015 года | Луна в Козероге 21.16 | Убывающая Луна | Не рекомендуется пересадка цветов. Время благоприятно для посадки картофеля, редиса, репы. Рыхление, внесение удобрений, прививка деревьев |
| 8 мая 2015 года | Луна в Козероге | Убывающая Луна | Не рекомендуется пересадка цветов. Время благоприятно для посадки картофеля, редиса, брюквы, репы. Рыхление, внесение удобрений, прививка деревьев |
| 9 мая 2015 года | Луна в Козероге | Убывающая Луна | Не рекомендуется пересадка цветов. Время благоприятно для посадки картофеля, редиса, брюквы, репы. Рыхление, внесение удобрений, прививка деревьев |
| 10 мая 2015 года | Луна в Водолее 02.22 | Убывающая Луна | Не рекомендуются посевы и посадки. Рекомендуется проводить опрыскивание и окуривание, подстригание деревьев и кустов, прополку |
| 11 мая 2015 года | Луна в Водолее | Последняя четверть 13.36 | Не рекомендуются посевы и посадки. Рекомендуется проводить опрыскивание и окуривание, подстригание деревьев и кустов, прополку |
| 12 мая 2015 года | Луна в Рыбах 05.53 | Убывающая Луна | Рекомендуются посадки сельдерея, редиса, луковичных, высадка рассады в грунт, подрезка и прививка деревьев и ягодных кустов. Отличное время для культивации, полива и внесения удобрений |
| 13 мая 2015 года | Луна в Рыбах | Убывающая Луна | Рекомендуются посадки сельдерея, редиса, луковичных, высадка рассады в грунт, подрезка и прививка деревьев и ягодных кустов. Отличное время для культивации, полива и внесения удобрений |
| 14 мая 2015 года | Луна в Овне 08.13 | Убывающая Луна | Не рекомендуются посевы и посадки. Рекомендуется подготовка почвы под посев, уничтожение вредителей, прополка и мульчирование |
| 15 мая 2015 года | Луна в Овне | Убывающая Луна | Не рекомендуются посевы и посадки. Рекомендуется подготовка почвы под посев, уничтожение вредителей, прополка и мульчирование |
| 16 мая 2015 года | Луна в Тельце 10.02 | Убывающая Луна | Рекомендуется посадка всех корнеплодов, клубневых и луковичных культур. Подстригание деревьев и кустарников |
| 17 мая 2015 года | Луна в Тельце | Убывающая Луна | Рекомендуется посадка всех корнеплодов, клубневых и луковичных культур. Подстригание деревьев и кустарников |

**У сувязі з 1 Мая наступны нумар "Народнай Волі" выйдзе ў аўторак 5 мая.**

АДПАЧЫНАК

# «Беларусаў ва Украіне любяць і заўжды чакаюць!»

*Адным з улюбёных маршрутаў беларусаў для адпачынку была і застаецца суседняя Украіна. Але апошнім часам у першую чаргу з-за тэлепрапаганды расійскіх каналаў у многіх з нас узнікае перасцярога: ці варта ехаць у краіну-суседку, наколькі гэта небяспечна? Днямі ў Амбасадзе Украіны ў Беларусі прайшла сустрэча прадстаўнікоў украінскіх курортаў з айчыннымі журналістамі. Наколькі адпавядае рэчаіснасці сцвярджэнне, што адпачываць ва Украіне бяспечна? Як у Заходняй Украіне насамарэч ставяцца да рускамоўных беларусаў? Ці дорага сёлета адпачыць на Азоўскім моры ці ў Карпатах? Вось што на гэты конт распавялі самі ўкраінцы...*





## Трускавец – вечная крыніца здароўя

За савецкім часам гэты невялічкі горад-курорт у Заходняй Украіне славіўся на ўсю "1/6 частку сушы". Атрымаць пуцёўку ў адзін з трускавецкіх санаторыяў было складана і прэстыжна адначасова. Усе ведалі: тут можна не толькі адпачыць, але і набрацца здароўя – вада з трускавецкіх свідравін і дагэтуль лічыцца вечнай крыніцай здароўя.

Але ў часы СССР трапіць на аздараўленне ў Трускавец ўдавалася далёка не ўсім ахвочым. Магутнасці курорта былі абмежаваны – трускавецкія санаторыі маглі размясціць каля 20.000 турыстаў.

Пасля таго, як Украіна стала незалежнай, Трускавец атрымаў другое дыханне, у першую чаргу за кошт прыходу сюды прыватнага капіталу.

Зараз у Трускаўцы шырокі выбар санаторыяў і гатэляў, што называецца, на любы густ і ўзровень фінансавых магчымасцяў.

Пра гэта "Народнай Волі" распавёў супрацоўнік аддзела браніравання гатэльна-курортнага комплексу "Карпаты" ў Трускаўцы **Алег Рэга**.

– Я вас, можа быць, шакірую, але, напрыклад, аднамесны нумар можна забраніраваць за смешныя грошы – 8–10 долараў з чалавека ў суткі. Гэта будзе светлы і чысты нумар з усімі зручнасцямі. Калі замаўляць адпачынак адразу з лячэннем, то гэта можа каштаваць ад 25 долараў у суткі разам з харчаваннем. Увогуле, цэнавая палітыка ў нашым гатэльным комплексе вельмі гнуткая. Кошты на паслугі і лячэнне засталіся на ўзроўні мінулага года, а недзе нават і зменшыліся ў сувязі з дэвальвацыяй нацыянальнай валюты ва Украіне. Беларусам, якія, як правіла, выязджаюць за мяжу, маючы долары ці еўра, адпачываць у нас стала яшчэ больш выгадна.

**– Ці павінен турыст да прыезду да вас самастойна звярнуцца ў паліклініку па месцы жыхарства, каб, умоўна кажучы, ведаць, ад чаго лячыцца?**

– У ідэале, канечне, было б добра, каб у турыста была з сабой выпіска з медыцынскай карты. Але, калі гэтых дакументаў у чалавека з сабой няма, абследаванне можна прайсці на месцы.

**– Якія медыцынскія паслугі можна атрымаць у "Карпатах"?**

– У нашым гатэльна-курортным цэнтры працуюць высакакласныя дактары розных профіляў. У нас лечаць цукровы дыябет, гастрыт, хранічны гепатыт, хваробы мужчынскай палавой сістэмы, панкрэатыт. Акрамя лячэння чалавек можа атрымаць кансультацыі вузкіх спецыялістаў. У ліку лячэбных працэдур на першым месцы разнастайныя мінеральныя ванны, бо ва ўсе часы Трускавец славіўся менавіта сваімі мінеральнымі крыніцамі. Зразумела, у нашым санаторыі ёсць і іншыя працэдуры – фізіятэрапія, фітатэрапія, інгаляцыі... Усяго не пералічыш, спектр паслуг даволі шырокі. І да кожнага з адпачывальнікаў – індывідуальны падыход.

**– Алег Любаміравіч, не магу не запытацца пра небяспеку для турыстаў. Наколькі адпавядаюць рэчаіснасці чуткі пра прыгнёт рускамоўных людзей на тэрыторыі Львоўшчыны?**

– Насамрэч праблема нацыяналізму, прыгнёту рускамоўных надуманая: што ў Львове, што ў Трускаўцы ніякіх міжнацыянальных канфліктаў не існуе. Калі б я не паглядзеў, знаходзячыся ў Мінску, расійскія тэлеканалы, то і не ведаў бы, што ва Украіне ўсё настолькі "дрэнна". Ніякай праблемы міжнацыянальных зносін, прыгнёту рускамоўнага насельніцтва не было на захадзе Украіны і няма. Працуюць рускамоўныя школы, выдаюцца рускамоўныя газеты. Ды пра што казаць: нават прэзідэнт Украіны Пётр Парашэнка, які валодае акрамя дзяржаўнай яшчэ і рускай мовай, вольна яе выкарыстоўвае. Так што прыязджайце, беларусаў – і беларускамоўных, і рускамоўных – ва Украіне любяць і заўжды чакаюць.

## Лепш за горы можа быць толькі мора

Беларусам, якія аддаюць перавагу пляжнаму адпачынку, таксама прамая дарога ва Украіну. У гэтым упэўнена начальнік інфармацыйнай службы курорта Кірылаўка, што на Азоўскім моры, **Наталля Полубаярынава.**

– Кірылаўка – гэта папулярны курорт на Азоўскім моры ў Запарожскай вобласці, – гаворыць Наталля. – Ён арыентаваны на пляжны сямейны адпачынак з дзецьмі. У сезоне-2015 у Кірылаўцы функцыянуе каля 300 баз адпачынку, гатэляў, пансіянатаў і гасцявых домікаў у прыватным сектары. У нас таксама кошты на арэнду жылля засталіся на мінулагоднім узроўні.

**– Якія яны?**

– Самыя розныя. Ад "эканом-класа" – ад 4 долараў з чалавека ў суткі – да больш дарагога – 40 долараў у суткі.

Што да відавочных плюсоў Кірылаўкі, дык адзначу, што курорт знаходзіцца далёка ад прамысловых прадпрыемстваў. Населены пункт акружаны ліманамі, выпарэнні якіх выконваюць ролю атмасфернага бар'ера, фарміруючы своеасаблівы экалагічны аазіс.

**– Чым славіцца ваш курорт?**

– Кірылаўка вядомая сваім лячэбным кліматам. За кошт таго, што населены пункт стаіць на беразе Азоўскага мора, тут існуе свая непаўторная ёднасалявая атмасфера, якая фарміруе знаёмы многім з дзяцінства непаўторны азоўскі брыз.

Адзначу, што ўсе пляжы ў Кірылаўцы пясчаныя. А што тычыцца міфа наконт таго, што Азоўскае мора мелкае, то гэта не пра Кірылаўку.

Паўтару: адпачынак на Азоўскім моры вельмі любяць сем'і з дзецьмі – ён падыходзіць для маленькіх адпачывальнікаў. У Кірылаўцы таксама ёсць забаўляльная інфраструктура – у нас знаходзіцца адзін з самых буйных ва Украіне аквапаркаў, дэльфінарый... Так што прыязджайце!

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ДА ВЕДАМА

**Больш падрабязна пра ўкраінскія курорты можна даведацца на сайтах:**
**http://san-karpaty.com – гатэльна-курортны комплекс "Карпаты";**
**http://kirillovka.ks.ua – курорт Кірылаўка.**

В КЛАССЕ С КЛАССИКОМ

# Свои новые балеты Елизарьев сначала видел во сне



Недавно в государственной хореографической гимназии-колледже было интересное, хотя и не публичное мероприятие. Учащиеся встречались с народным артистом СССР, балетмейстером Валентином Николаевичем Елизарьевым. Большой зал был полон молодой публики, играла музыка, на сцене стояли цветы – хозяева постарались придать моменту максимальную торжественность, приветствуя именитого гостя, известного на полмира хореографа. Во вступительном слове директор колледжа Зория Петровна Дусенко сказала очень точные слова: «Сегодня Валентин Николаевич в нашем доме, и это – праздник, это уникальная возможность соприкоснуться с творчеством великого человека, который посвятил свою жизнь прекрасному искусству балета».

Ребята задавали много вопросов мастеру о годах его учебы, о начале пути, о периоде становления в профессии. Каждому, наверное, в душе хотелось протянуть ниточку между биографией большого человека, талантливого хореографа и собственной будущей судьбой. Что ж, это понятно, для этого, собственно, и назначаются такие встречи – чтобы разбудить амбиции молодых, посеять зерна надежды и творческого желания.

Хотя Валентин Николаевич, как известно, не большой любитель разговорного жанра, но с ребятами он был откровенен, терпелив и внимателен. Рассказывал, например, как учился в Ленинградском хореографическом училище в одно время с Михаилом Барышниковым и каким одержимым учеником был будущий гениальный танцовщик. В те годы у подростка-Барышникова был небольшой физический изъян – плохо развитые икры ног, что для танцовщика несомненный минус, так как фигура со сцены выглядит из-за этого не так благородно. И вот, чтобы накачать икроножные мышцы, Барышников ежедневно ходил на полупальцах по 4 километра в день – с интерната до училища и обратно. И так несколько лет...

Валентин Николаевич отвечал на вопросы учащихся колледжа и о своих знаменитых балетах: как он их создавал, на что опирался? Хореограф признался с улыбкой, что очень часто новые спектакли приходили к нему во сне – фантастически красивые, уникальные, страстные. Но, просыпаясь, он редко мог точно записать их



по памяти. Хотя, например, весь второй акт «Спящей красавицы» Чайковского, увиденный во сне, он все-таки успел запомнить, потому что усилием воли вовремя проснулся и буквально бросился к бумаге, чтобы зафиксировать танец...

На встрече были показаны два фильма-портрета Елизарьева, созданные о мастере Белорусским телевидением. Оба транслировались в свое время по БТ: «Зеркало времени» и «Под грифом «Известные». Хорошие работы. Но как все-таки аудитория меняет восприятие материала... Одно дело – смотреть фильм дома наедине с телеэкраном. И другое – в молодом, жаждущем будущих успехов коллективе. От ребят в зале шла такая заинтересованность, такая деятельная энергия!.. И я снова, будто в первый раз, слушала с экрана мастера, слушала восхищенные отзывы о работе с ним его коллег, воспоминания его друзей и поклонников... И снова, как в первый раз, с воодушевлением смотрела отрывки из елизарьевских балетов – прекрасных произведений искусства, которые создали европейскую славу и постановщику, и белорусскому балету вообще. И снова задавала себе вопрос: как можно было театру оперы и балета так поспешно, так небрежно отказаться от такого «сундука с золотом», как личность балетмейстера Елизарьева? Ведь его творчество – это богатейший клад, достояние республики. И вот сейчас оно задвинуто на задний план, его спектакли тихо сходят с репертуара или стареют, меркнут без должного внимания художественного руководства. Что это: закон времени, маятника, вечных приливов и отливов? Или все-таки банальное человеческое несовершенство? Хорошо, что век кинопленки намного дольше, чем внимание и благодарность современников. Я уверена на сто один процент, что будущими поколениями востребуется все творчество Елизарьева, все его постановки, потому что это настоящий золотой век белорусского балета.

**Елена МОЛОЧКО.**



# «Матацыкл на вуліцах Мінска»

Усе матацыклы на выставе прыватныя, прадастаўленыя беларускімі ўладальнікамі.

Адзін з найбольш цікавых экспанатаў – матацыкл «Нёман» 1938 года, выраблены ў Гродне.

«*Ён захаваўся ў добрым стане. Ёсць рама, рухавік, колы, шчыткі, пярэдняя вілка, сядзёлак. Рухавік таксама захаваўся*», – апісвае ўнікальны матацыкл Васіль Цярэшка з Таварыства абароны помнікаў тэхнікі і транспарту «Наша Перамога». Ён кажа, што ў тыя часы матацыклы выраблялі небуйнымі партыямі, таму яны рабіліся дыхтоўна.

Увогуле ў Беларусі было нямала старых матацыклаў, кажа Васіль Цярэшка, але шмат іх вывезлі ў Польшчу ці Германію.

На выставе таксама можна пабачыць «Мінск» 1969 года, альбо М-72 (Масква) 1955 года, пасляваенны ІЖ-350 і нават унікальны «ваенны» «Харлей Дэвідсан», які трапіў у Беларусь, хутчэй за ўсё, дзякуючы ленд-лізу.



У «Скале» (П.Глебкі,5) праходзіць выстава
**«Матацыкл на вуліцах Мінска».**
**29 красавіка ў 18.00**
адбудзецца прэзентацыя першага беларускага матацыкла «Нёман» (1938 г.).
**Запрашаем!**
Тэл.для сувязі:
МТС – (8029) 775-46-83, Vel. – (8029) 610-43-94.

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул. Энгельса, 34а.**
**Прыёмная:**
**тэл. (017) 3286871.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286609**
**nvonlineinfo@gmail.com**
**http://www.nv-online.info**

9 772071 964000 15033

**Падпісныя індэксы:** 63222 – для індывідуальных падпісчыкаў, 632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, правы ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 27.04.2015 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25420 экз. Заказ №1385.